ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## СЬНЕЖАНЬСКІ ПЛЕНУМ ЦК КП(б)Б

## № 13-14



СЬНЕЖАНЬ
ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1932

Літрэдактар *А. Зімюнка*
Карэктар *С. Дамаронак*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў друкарню 15/XII—32 г.
Падпісана да друку 19/XII—32 г.
Набрана на лінатыпе № 6
Адк. кар. друк. *Мацкевіч*

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



Заказ № 2082. 12.000 экз. (2¾ арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 1220.

Друкарня імя Сталіна.

# ІНФОРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

1—5 сьнежня адбыўся IV пленум ЦК КП(б)Б. Пленум абмеркаваў наступныя пытаньні:

1. Справаздачны даклад Наркомзему Беларусі аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні пастаноў ЦК і СНК па павышэньні ўраджайнасьці і плян і організацыя веснавой сяўбы ў 1933 г. (даклад тт. Рачыцкі, Масюкоў, Тамашэўскі, садаклад ЦКК РСІ т. Турлай).

2. Справаздачныя даклады «Загатзбожжа», «Загатлён» і «Загатжывёла» аб ходзе выкананьня пляну загатовак па збожжы, ільну, мясу (даклад тт. Журомскі, Шэйнін, Рашал).

3. Справаздачныя даклады Наркомасьветы, Наркомлегпраму, Наркомцяжпраму і Наркомзему аб практычных мерапрыемствах па выкананьні пастаноў ЦК па пера-

будове работы масавых школ, ВНУ і ВТНУ (даклад тт. Платун, Грысевіч, Сакаленка, Паніматка, садаклад ЦКК РСІ т. Лычоў).

4. Справаздачныя даклады аб партыйна-масавай рабоце Лёзьненскага, Слуцкага і Мазырскага РК КП(б)Б.

Пленум кооптаваў у склад членаў ЦК КП(б)Б т. Шафарэнку—сакратара Гомельскага гаркому, т. Домбаля—віцэпрэзыдэнта Акадэміі навук БССР і т. Смаленскага.

Пленум увёў у склад членаў Бюро ЦК т. Міцькова—сакратара Віцебскага ГК і т. Шафарэнку—сакратара Гомельскага гаркому.

З прычыны ўходу на вучобу т. Хлеўнікава, пленум аслабаніў т. Хлеўнікава ад абавязкаў члена Бюро ЦК КП(б)Б. Пленум увёў у склад кандыдатаў у члены Бюро ЦК КП(б)Б т. Ляўкова—загадчыка Культпропу ЦК КП(б)Б, т. Горына—прэзыдэнта БАН і т. Брагінскага—рэдактара «Зьвязды».

**ЦК КП(б)Б.**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

# 1. ЗНАЧЭНЬНЕ СЬНЕЖАНЬСКАГА ПЛЕНУМУ ЦК КП(б)Б

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Ь зьяўляецца значнай вехай у разьвіцьці КП(б)Б, у социялістычным будаўніцтве БССР. Амаль усе пытаньні пленуму концэнтраваліся вакол рашаючай задачы—**паскарэньня тэмпаў социялістычнай пераробкі вёскі**—выкананьне пляну с.-г. загатовак, павышэньне ўраджайнасьці, падрыхтоўкі кадраў, палепшаньня партыйна-масавай работы на вёсцы.

Пленум ЦК констатаваў, што ў выніку пяцігодкі, с.-г. БССР, як і ўсяго СССР, цьвёрда замацавалася на соцыялістычным шляху.

Сваячасовым выкананьнем с.-г. загатовак замацаваць перамогі апошняга году пяцігодкі; у адпаведнасьці з рашэньнямі партыі і ўраду **павярнуць** парторганізацыі да цэнтральнай задачы ў сельскай гаспадарцы—уздыму ўраджайнась-

ці; паскорыць перабудову масавай і вышэйшай школы паводле апошніх рашэньняў ЦК, і тым стварыць рашаючую ўмову паскарэньня тэмпаў соцыялістычнай перабудовы вёскі—**кадры;** карэнным чынам палепшыць партыйна-масавую работу—павысіць **конкрэтнае** кіраўніцтва, дабіцца таго, каб раённае парткіраўніцтва ведала кожны колгас, саўгас, ячэйку, каб ячэйка абрасла шырокім колгасным актывам, каб штодзенная работа ячэек была насычана бальшавіцкай непрымірымасьцю.

Сума пытаньняў, абмеркаваных пленумам, ахоплівае ўсе вучасткі соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы. Высоўваючы перад усёй КП(б)Б як перад яе гарадзкімі, так і перад вясковымі парторганізацыямі, вузлавыя пытаньні далейшай соцыялістычнай пераробкі вёскі, пленум ЦК ішоў іменна ўсьлед тым указаньням, якія даваў у апошні час ЦК УсеКП(б) і т. Сталін аб неабходнасьці больш сур'ёзнага, больш сыстэматычнага і конкрэтнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай.

Пленум ЦК улічыў тыя палітыч-

ныя ўрокі, якія выцякаюць з вопыту барацьбы за ўмацаваньне колгаснага будаўніцтва на Украіне і Паўночным Каўказе. У сваім выступленьні кіраўнік КП(б)Б—т. Гікала падкрэсьліў небясьпеку недаацэнкі ўрокаў клясавай барацьбы на Паўночным Каўказе. Улічыць гэтыя ўрокі—г. зн. узмоцніць барацьбу з рэшткамі кулацтва, адкрыць шалёны агонь супроць опортуністаў, правых опортуністаў перш за ўсё (у той-жа час падаўляючы бязьлітаснай бальшавіцкай рукой спробы контррэволюцыйнага трацкізму прадаўжаць сваю падрыўную работу), супроць прымірэнцаў, супроць усіх лібэральнічаючых у адносінах да кулака, выкінуць з сваіх радоў усіх, хто разлажыўся, усіх, хто прымазаўся да партыі, усіх, хто зрошчваецца з кулацкімі элемэнтамі;

з дапамогай адборнага колгаснага актыву, апіраючыся на бядняцка-серадняцкі актыў з ліку аднаасобнікаў, якія акуратна выконваюць свае абавязацельствы, ачысьціць комісіі садзейнічаньня, сельсаветы, праўленьні колгасаў і перш за ўсё адміністрацыйна-гаспадар-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чыя вышыні (загадчык фэрмай, рахункавод, кладаўшчык, заг. сельпо і т. д.) ад кулацкіх элемэнтаў, ад падкулачнікаў, ад жулікаў наогул;

узьняць клясавую пільнасьць, бальшавіцкую баяздольнасьць усіх комуністаў і комсамольцаў, уліць у сельсаветы, праўленьні колгасаў, паставіць на пасты кладаўшчыкоў, заг. сельпо, заг. млыном і т. д. праверaных, адданых савецкай уладзе колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў—

вось важнейшыя ўмовы выкананьня тых практычных задач, якія пастаўлены пленумам.

Важнейшай з іх, бязумоўна, стане **чыстка членаў партыі і кандыдатаў.**

Комэнтыруючы рашэньне ЦК УсеКП(б) ад 10 сьнежня, цэнтральны орган партыі, «Правда» пісала:

«Новая абстаноўка ў вёсцы патрабуе ўмацаваньня партыйных і комсамольскіх організацый, ачышчэньня партыйных організацый ад чуждых элемэнтаў, якія прымазаліся, ад людзей, якія перарадзіліся, ня здольны праводзіць політыку партыі ў вёсцы, ад людзе[й]

ДЛЯ ЗАЎВАГ

якія прабуюць здрадніцкі зрываць выкананьне гаспадарчых кампаній на вёсцы.

Організатарамі кулацкага саботажу хлебазагатовак у некаторых раёнах і колгасах зьяўляліся людзі, маючыя ў кішэні партбілет, але якія даўно ўжо перарадзіліся і на справе праводзілі кулацкую палітыку пад флагам «згоды» з генэральнай лініяй партыі. **Такі вораг з партбілетам у кішэні зьяўляецца больш небясьпечным, чым адкрыты контррэволюцыянэр, і павінен быць пакаран па ўсёй строгасьці рэволюцыйнага закону.**

За апошні пэрыод многія сельскія парторганізацыі аказаліся моцна засьмечанымі людзьмі, чуждымі для справы комунізму. А часамі ў партыі пралазілі яўна кулацкія элемэнты, «перафарбаваўшы фасад». Чыстка сельскіх організацый партыі, якая праводзіцца цяпер на Паўночным Каўказе і ў радзе раёнаў Украіны, умацоўвае баяздольнасьць партыйных організацый, садзейнічае згуртаваньню вакол іх перадавых колгасьнікаў, колгаснага актыву.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Публікуемая сёньня пастанова ЦК УсеКП(б) аб правядзеньні чысткі членаў партыі і кандыдатаў у члены партыі на працягу 1933 году грунтуецца на рашэньні XVI партыйнай конфэрэнцыі аб неабходнасьці праводзіць **пэрыодычныя чысткі** асабовага складу партыйных організацый, каб сыстэматычна ачышчаць партыю ад дробнабуржуазных элемэнтаў, якія няўнікнёна да яе прымазваюцца. Гэтая агульная чыстка партыйных радоў, вызваляючы партыю ад элемэнтаў, якія зрасьліся з кулацтвам, прымазаліся, абюрократыліся, ад людзей, ня здольных змагацца за справу комунізму, ад людзей, скарыстоўваючых прабываньне ў партыі для сваіх карыстных і кар'ерысцкіх мэт і да т. п.—яшчэ больш умацуе магутнасьць ленінскай партыі, яшчэ больш узмоцніць яе сувязь з шырокімі масамі працоўных».

Разьясьняючы гэтае рашэньне ЦК, даводзячы яго да кожнага комуніста, да кожнага комсамольца і блізкага да партыі працоўнага, мы павінны ўжо цяпер скарыстаць гэтае рашэньне **як магутны сродак**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

№ 22721

**умацаваньня партыйных радоў, павышэньня іх клясавай пільнасьці і бальшавіцкай непрымірымасьці.**

У ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы імкнуцца актывізаваць сваю дзейнасьць контрэволюцыйныя трацкісцкія элемэнты, спэкулюючы на часовых цяжкасьцях.

На міжнароднай арэне, выступаючы адвокатам сацыял-фашызму, імкнучыся разлагаць брацкія кампартыі знутры, робячы паклёп на СССР, пастаўляючы агідныя ілжывыя лягенды аб СССР усяму буржуазнаму і сацыял-фашысцкаму друку—трацкізм унутры СССР імкнецца стварыць нелегальныя контррэволюцыйныя групы, канцэнтруючы вакол сябе контррэволюцыйныя, антыпартыйныя элемэнты з опозыцый усіх колераў.

Програма контррэволюцыйнага трацкізму—гэта програма кулацкай, буржуазнай рэстаўрацыі. Капітуляцыю перад сусьветным капіталам, фактычны роспуск колгасаў і саўгасаў, свабоду разьвіцьця кулацтва, ліквідацыю курсу індустрыялізацыі краіны—вось якую меншавіцкую програму прапаве-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

дуе- трацкізм — «Собака возвращается к своей блевотине».

У кастрычніку была раскрыта контррэволюцыйная група Руціна-Галкіна, якая выступала з адкрытай трацкісцкай, кулацкай праграмай, згуртаваўшай як трацкісцкія, так і праваопортуністычныя элемэнты.

За апошні час рад трацкісцкіх контррэволюцыйных груп былі раскрыты і ў БССР (у Мазыры, Акадэміі навук).

Двурушнічаючы, ашукваючы партыю, часова прыкрываючы сваю контррэволюцыйную трацкісцкую істоту партбілетам, удзельнікі гэтых групак прымянялі сьвядомую тактыку разлажэньня партарганізацыі знутры, займалася сабатажам на тых адказных вучастках, якія былі ім даручаны, у прыватнасьці сабатавалі паездку на сяло, імкнуліся сарваць справу ўзмацненьня пралетарскага кіраўніцтва сялом, прапаведвалі контррэволюцыйныя погляды, што профсаюзам, моў, непатрэбна ўдзельнічаць у арггаспадарчым узмацненьні колгасаў, сабатавалі справу пасылкі членаў профсаюзаў у сяло

Погляды, якія прапагандавалі члены гэтай контррэволюцыйнай групоўкі, тыповы для трацкістаў— гэтага перадавога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі. Тут і пропаведзь прызыву імпэрыялістычных ворагаў («буржуазны сьвет пабудаваў-бы нам усё, краіна была-б багата»). Тут і пропаведзь свабоды разьвіцьця кулака і згортваньня колгасаў.

Урок з выкрыцьцём трацкісцкіх элемэнтаў у Мазыры і Беларускай Акадэміі Навук той, што цэлы рад трацкістаў па-двурушніцтву хаваюць перад партыяй сваё трацкісцкае нутро, прадаўжаючы ў той-жа час нелегальна весьці прапаганду контррэволюцыйных трацкісцкіх поглядаў.

Урок з выкрыцьцём трацкіцкіх элемэнтаў у Мазыры і Беларускай Акадэміі Навук той, што ў радох нашай партыі ёсьць такія людзі, якія лібэральна адносяцца да пропаведзі трацкісцкіх тэорый, абараняюць пропаведзь гэтых поглядаў, зводзячы справу да быццам няістотных разгалосьсяў.

Той факт, што цэлы рад асьпірантаў Акадэміі Навук прымірэнча аднесьліся да пропаведзі трацкіста, удзельніка падпольнай групы, прабуючы прадставіць яго як сумленнага, вытрыманага партыйца, гаворыць аб неабходнасьці **бязьлітаснай барацьбы з гнілым лібэралізмам, з прымірэнцтвам да контррэволюцыйнага трацкізму.**

З партыі трэба гнаць ня толькі выкрытых трацкістаў, але і іх адвакатаў.

Контррэволюцыйныя трацкісцкія групы, ня гледзячы на спробы іх ўдзельнікаў схавацца за партбілетам, выяўлены.

Галоўны ўрок з Мазырскай і Акадэміі Навук спраў—гэта **максымальнае ўзмацненьне бальшавіцкай пільнасьці, гэта бязьлітаснае ўскрыцьцё, выкрыцьцё двурушнікаў, ашуканцаў, якія прабуюць разлагаць партыю знутры, пад прыкрыцьцём партбілета.**

«Выкрываючы і выкідваючы з сваіх радоў парушальнікаў партыйнай дысцыпліны, правых опортуністаў, контррэволюцыйных трацкістаў, двурушнікаў, ашуканцаў, якія прыкрываюцца формальнай

ДЛЯ ЗАЎВАГ

згодай з лініяй партыі, на справе вядучых агідную антыпартыйную работу, даючы бязьлітасны адпор «лявацкім» скрыўленьням партыйнай лініі і ўсякаму прымірэнцтву да опортунізму—партыя даб'ецца яшчэ большага згуртаваньня сваіх радоў». («Правда»).

Сваім рашэньнем па справе сакратара Жлобінскага райкому Жыракова, мобілізуючым усю беларускую парторганізацыю на барацьбу з опортуністамі і прымірэнцамі,

выяўленьнем дзейнасьці контррэволюцыйных трацкістаў (Мазыр, Акадэмія Навук і т. д.), якія часова двурушніцкі прыкрываліся партбілетам—ЦК КП(б)Б павысіў бальшавіцкую пільнасьць і непрымірымасьць КП(б)Б.

## 2. ЗАГАТОЎКІ

Рашаючым зьвяном, за якое трэба ўчапіцца, каб выцягнуць увесь ланцуг гаспадарча-палітычных задач, на сёнешні дзень зьяўляюцца загатоўкі. Загатоўкі зьяўляюцца важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніяй.

Загатоўкі хлеба, мяса, ільну, бульбы і т. д. ня толькі вырашаюць пытаньне аб сваячасовым рабочым снабжэньні і снабжэньні нашай Чырвонай арміі, ня толькі вырашаюць пытаньне аб сваячасовым снабжэньні нашай соцыялістычнай прамысловасьці сыравінай. Загатоўкі вырашаюць пытаньне і організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня саміх колгасаў (правільнага разьмеркаваньня даходаў перш за ўсё) і палепшаньня матэрыяльнага становішча працоўных вёскі. Сваячасовае выкананьне загатовак у нашых умовах абвостранай барацьбы з рэшткамі кулацтва ўмацоўваюць колгасны рух, згуртоўваюць вакол партыі шырокія слаі працоўных. Як паказаў вопыт барацьбы за адгрузку бульбы Ленінграду, загатоўкі зьяўляюцца сур'ёзнай школай клясавай барацьбы для кожнага комуніста і комсамольца, праверку клясавай баяздольнасьці кожнага старшыні сельсавету, кожнага старшыні колгасу.

Наша рэспубліка, як і іншыя рэспублікі СССР, атрымалі зьніжаны плян загатовак.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Апіраючыся на рост соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, на рост саўгасаў у прыватнасьці, савецкая дзяржава знайшла магчымым зьнізіць дзяржаўныя **цэнтралізаваныя** загатоўкі па **сялянскім** сэктары, высоўваючы ва ўвесь рост пытаньне аб разгортваньні колгаснага гандлю, аб дэцэнтралізаваных загатоўках як дадатковы мэтод рабочага снабжэньня, як мэтод тавараабмену паміж горадам і вёскай.

У рэзультаце агульнага зьніжэньня пляну загатовак па СССР, плян хлебазагатовак па БССР **у гэтым** годзе (у параўнаньні з мінулым годам) быў зьніжан з 109 тыс. т да 65,5 тыс. т, па ільновалакну з 31 да 27 тыс. т і т. д. —

Тым ня менш, ня гледзячы на гэтае значнае зьніжэньне пляну, ход загатовак,—за выключэньнем адгрузкі бульбы Ленінграду, гаспадарча-палітычная кампанія, праведзеная бальшавіцкімі тэмпамі,—зьяўляецца яўна нездавальняючым.

У той час, як загатоўкі бульбы і хлеба павінны былі быць даўно закончаны, на 5 сьнежня мы маем толькі 59,4 проц. выкананьня хле-

базагатоўчага пляну (разам з насеннай пазычкай) і 71,8 проц. выкананьня па бульбе. Па мясу квартальны—рашаючы—плян выканан толькі на 45,9 проц. Яшчэ горш ідуць ільнозагатоўкі. На 3 сьнежня выканан толькі 25,9 проц. па ільновалакну і 58,8 проц. па ільнасемі.

Калі мы праанялізуем выкананьне пляну загатовак па сэктарах, то атрымаем наступным малюнак (паводзе зводкі на 5/XII) гл. ст. 17):

Аб чым гаворыць гэтая табліца? Яна гаворыць, па-першае, аб тым, што плян загатовак ня выканан нават колгасамі, па-другое, аб рэзкім адставаньні аднаасобнага сэктару, асабліва па бульбе і ільну, па-трэцяе, аб недапушчальных прымірэнчых адносінах да кулацкіх элемэнтаў у цэлым радзе раёнаў.

Хіба-ж той факт,—што кулацказаможныя элемэнты здалі па хлебе параўнальна амаль у два разы менш, чым колгасы, здалі крыху больш аднэй трэці пляну,—не гаворыць аб тым, што па радзе раёнаў, ва многіх сельсаветах няма бальшавіцкай цьвёрдасьці ў адносінах да кулака, ня прыняты меры

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

| | Хлеб | Бульба | Лён | Мяса |
|---|---|---|---|---|
| Колгасы. . . . . | 69,0 | 86,5 | 29,3/ 74,8 *) | 11,4 |
| Аднаасобнікі . . . . | 54,8 | 50,8 | 18,6/ 37,2 *) | 31,3 |
| Цьвёрдазаданцы . . . | 38,9 | 7282 *т* **) | 118/289 *т* **) | 564 *т* **) |

*) Лічнік валакно, назоўнік—семя.

**) Указваецца ў натуральным выражэньні.

да таго, каб спыніць у корані кулацкія спробы выкінуць на рынак хлеб, мяса, бульбу па ўздутых цэнах, ня прыняты меры да выяўленьня кулацкага хлеба, бульбы, схаваных у ямах, пад падлогай і т. д.

Аналіз выкананьня загатовак у раённым разрэзе дае стракаты малюнак, так, напрыклад, **па хлебу:**

перадавымі раёнамі зьяўляюцца:

| | | |
|---|---|---|
| Жыткавічы . . | 102,1 | проц. |
| Тураў . . . | 100,9 | " |
| Камарыно . . . | 97,3 | " |
| Узда . . . . | 95,7 | " |
| Ст. Дарогі . . | 82,4 | " |

ганебна адстаючымі:

| | | |
|---|---|---|
| Чырвонапольле . | 34,9 | проц. |
| Горкі . . . . . | 37,9 | " |
| Рэчыца . . . . | 38,7 | " |
| Крупкі . . . . | 38,9 | " |
| Асьвея . . | 39,4 | " |

Узьнікае пытаньне, чым істотна розьняцца Ст. Дарогі ад Чырвонапольля (якое, дарэчы, бульбазагатовак не вяло і, значыць, мела магчымасьцяй больш для таго, каб закончыць хлебазагатоўкі раней другіх раёнаў) або Камарыно ад Рэчыцы?

Чаму Камарыно, Ст. Дарогі канчаюць хлебазагатоўкі, а Чырвонапольле выканала толькі адну трэць

пляну. Тлумачыцца гэта відавочна **толькі** тым, што ў гэтых першых раёнах былі прыняты цьвёрдыя меры ў адносінах да кулака, была разгорнута рашучая барацьба са спэкуляцыяй; былі мобілізаваны партыйна-комсамольскія сілы, колгасны і бядняцка-серадняцкі актыў на выкананьне пляну хлебазагатовак і т. д. і да т. п., а ў Чырвонапольлі лібэральнічалі з кулакамі, не вялі барацьбы са спэкуляцыяй, не мобілізавалі сілы комуністаў і комсамольцаў, не з'арганізавалі вясковага актыву.

Або ўзяць загатоўкі **ільну** ў раённым разрэзе.

Чаму Бялынічы здолелі загатовіць да 5 сьнежня 50,1 проц. ільнавалакна, а Асьвея толькі 6,6 проц., Дуброўна 8,5 проц.?

Усякія спасыланьні на «об'ектыўныя» прычыны тут зьяўляюцца недарэчнымі і яўна опортуністычнымі.

А калі ўзяць загатоўкі **мяса**?

Перадавымі тут зьяўляюцца:

| | | |
|---|---|---|
| Тураў | 135,3 | проц. |
| Жыткавічы | 126,8 | „ |
| Чырвоная Слабада | 112,5 | „ |
| Менск | 79,1 | „ |

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Ганебна адстаючымі:

| | | |
|---|---|---|
| Сіроціна | 14,5 | проц. |
| Ушачы | 18,4 | " |
| Ветка | 20,9 | " |
| Чачэрск | 21,0 | " |
| Церахоўка | 21,4 | " |

Зноў-такі тут няма розьніцы паміж Туравам—Жыткавічамі і Ушачамі, як няма розьніцы паміж **Менскам,** які ідзе па мясазагатоўках наперадзе, і **Гомелем,** які адстае.

Ход загатовак найбольш ярка ўскрывае работу кожнага раёну, сельсавету, колгасу, кожнай ячэйкі.

Як невыпадкова тое, што Тураў, Жыткавічы датэрмінова выканалі і перавыканалі пляны адначасова і па хлебу і па мясу, што Слуцк, Рагачоў з посьпехам набліжаюцца да завяршэньня хлеба і бульбазагатовак, так невыпадковым зьяўляецца ганебнае адставаньне Церахоўкі, Нароўлю, Дуброўны, Буда-Кашалёва, Чырвонапольля і т. д.

Рэзолюцыя пленуму ЦК указвае, што посьпех у тым, што «партыйныя, савецкія і загатоўчыя арганізацыі гэтых раёнаў пры выкананьні гэтых відаў загатовак лепш перабудаваліся адпаведна ўказань-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ням ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б і канкрэтна падышлі да загатоўчых плянаў паасобных сельсаветаў і колгасаў, арганізавалі колгасныя і аднаасобныя бядняцка-серадняцкія масы на выкананьне дзяржаўных загатовак, разьбілі кулацкае супраціўленьне і вялі рашучую барацьбу з опортуністычнымі элемэнтамі ў радох парторганізацый, з кулацкімі агентамі ў сельсаветах і загатоўчых організацыях». І адначасова падкрэсьлівае, што «рад раёнаў опортуністычна аднесьліся да ўстаноўленых зьніжаных плянаў цэнтралізаваных загатовак і патрабаваньняў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб дасканалым, конкрэтным падыходзе пры давядзеньні плянаў загатовак да сельсаветаў, колгасаў і т. д. Гэтыя пастановы і ўказаньні ня былі своечасова скарыстаны як належыць для організацыі справы загатовак, перабудовы партыйных, савецкіх і загатоўчых організацый, мобілізацыі мас колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў на выкананьне зьніжаных цэнтралізаваных плянаў загатовак. Замест гэтага організацыі пакінулі загатоўкі на самацёк».

Аналізуючы прычыны прарываў па раду раёнаў, пленум рэзка падкрэсьліў, што «кулацкае супраціўленьне, кулацкая работа ў некаторых колгасах і сярод працоўных аднаасобнікаў маглі мець пэўны ўплыў толькі ў выніку страты клясавай пільнасьці паасобнымі сельскімі парторганізацыямі, засьмечанасьці апошніх клясава варожымі элемэнтамі, з прычыны разлажэньня і змыканьня комуністаў, якія стаяць на чале паасобных загатоўчых організацый, сельсаветаў, колгасаў з кулацтвам і няпрыняцьця сваячасовых мер з боку паасобных раённых парторганізацый (Асіпавічы, Магілеў, Быхаў—Загатзбожжа, Слуцк—Плодагарадніна і т. д.)»

ДЛЯ ЗАЎВАГ

* * *

Паставіўшы задачу паскарэньня тэмпаў загатовак як **рашаючую** задачу сёнешняга дня, пленум даў наступныя жорсткія тэрміны: хлебазагатоўкі закончыць да 25 сьнежня; у загатоўках па ільновалакну дабіцца к 1 студзеню 80 проц. і па ільносемі—100 проц.; па мясазагатоўках дабіцца ў IV квартале (г. зн.

да 1 студзеня 1933 г.) адну трэць (15 тыс. т) 15-месячнага пляну.

Задачы ў справе барацьбы за ўзмацненьне тэмпаў загатовак зьяўляюцца яснымі.

Неабходна перш за ўсё зараз-жа прымусіць кулацка-заможныя элемэнты выканаць загатоўкі па цьвёрдых заданьнях. Да ўсякага цьвёрдазаданца, саботуючага загатоўкі, прымяніць усе меры рэволюцыйнай законнасьці. Рука пролетарскага правасудзьдзя павінна жорстка пакараць клясавага ворага, які аказвае супраціўленьне важнейшай гаспадарча-політычнай кампаніі—загатоўкам.

Неабходна ачысьціць комісіі садзейнічаньня, сельсаветы і іншыя організацыі ад кулакоў і кулацкіх агентаў.

«Усё гэта адначасова павінна быць зьвязана з дасканалым **адборам колгаснага актыву,** вылучэньнем праверанных колгасных актывістаў і аднаасобнікаў, якія акуратна выконваюць дзяржаўныя загатоўкі, у сельсаветы, комісіі садзейнічаньня».

Рашучыя меры ў адносінах кулака павінны спалучацца з разгорт-

ваньнем масавай работы сярод калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў. Асабліва неабходна растлумачыць рашэньні СНК СССР і ЦК УсеКП(б) аб гандлі хлебам, паказваючы на прыкладзе Татарыі і Маскоўскай вобласьці, што калгасы і працоўныя аднаасобнікі гэтых вобласьцяй, выканаўшы **датэрмінова** плян хлебазагатовак, атрымалі права гандлю хлебам, і адначасова падкрэсьліваючы, што гандаль хлебам ня будзе дазволен і пасьля 15 студзеня 1933 г. у тых рэспубліках і вобласьцях, дзе да гэтага часу плян хлебазагатовак выканан ня будзе. Пленум рэзка падкрэсьліў задачу рашучай барацьбы са спэкуляцыяй хлебам і запрапанаваў: «у адносінах да тых, хто будзе парушаць гэтую пастанову, будуць ужывацца меры конфіскацыі збожжа, а ў адносінах да кулакоў, перакупшчыкаў і спэкулянтаў—суровыя карныя меры ў судовым парадку».

Падкрэсьліваючы задачу разгортваньня масавай работы, пленум адначасова ўказаў на неабходнасьць «у паасобных выпадках—да тых, хто злосна ўхіляецца ад вы-

кананьня контрактацыйных дагавароў—меры адміністрацыйнага ўзьдзеяньня, якія абмоўлены ў гэтых контрактацыйных дагаварох».

Намячаючы задачы парторганізацыі ў справе загатовак, пленум констатаваў іх у паасобных загатоўках.

Па хлебазагатоўках ён у прыватнасьці падкрэсьліў задачу—суровай, бязьлітаснай барацьбы з раскраданьнем памольнага збору. Да гэтага часу раскрадзена да 100 тыс. пудоў мукі, якія зьяўляюцца ўласнасьцю пролетарскай дзяржавы. Ёсьць паасобныя раёны, дзе колькасьць раскрадзенага гарнцавага збору дасягае 15—20 тыс. пудоў (Горкі).

Партыйна-савецкія організацыі гэтых раёнаў павінны, нарэшце, зразумець, што далейшае патураньне раскраданьню мукі, належачай дзяржаве, мяжуецца з простым злачынствам перад партыяй і ўрадам.

Гэтыя страшэнныя факты раскраданьня гарнцавага збору зьяўляюцца магчымі толькі дзякуючы страце клясавай пільнасьці з боку паасобных раённых організацый;

дзякуючы разлажэньню комуністаў, якія стаяць на чале паасобных млыноў, дзякуючы неверагоднаму засарэньню кадраў мельнікаў, кладаўшчыкоў, клясава чуждымі элемэнтамі.

Задачы барацьбы за захаваньне гарнцавага збору зьяўляюцца яснымі—неабходна, каб партыйна-савецкія органы ўзялі пад асобы контроль млыны і кладоўкі. Неабходна ачысьціць рады мельнікаў, кладаўшчыкоў, вагаўшчыкаў, заг. ссыпнымі пунктамі ад кулакоў і іх агентаў. Неабходна зараз-жа і сурова судзіць конкрэтных віноўнікаў раскраданьня збожжа, належачага дзяржаве.

Па **ільнозагатоўках** пленум асоба падкрэсьліў задачу палепшаньня работы ільносушыльных пунктаў і пунктаў па першапачатковай апрацоўцы ільну ў колгасах.

Задачу організацыі **сталых вытворчых** брыгад, забесьпячэньня кругласутачнай работы ільнамялак, рэзкага палепшаньня **якасьці** здаваемай продукцыі. Загатільну пленум запрапанаваў палепшыць кіраўніцтва ільнозагатоўкамі: больш конкрэтна, больш дыфэрэнцавана

ДЛЯ ЗАЎВАГ

падыйсьці да снабжэньня хлебам, прамтаварамі ў паасобку, у залежнасьці ад колькасьці і якасьці ільнопродукцыі, якая здаецца.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

У галіне **мясазагатовак** пленум паставіў рашаючай задачай тэрміновую «праверку таго, як праведзена давядзеньне абавязацельстваў па мясаздачы да двароў колгасьнікаў і аднаасобнікаў, устанаўленьне заданьняў для ўсіх жывёлагадоўчых фэрм і асабліва праверыць устанаўленьне сельсаветамі заданьняў у адпаведнасьці з інструкцыяй аб мясазагатоўках і ўлік выкананьня абавязацельстваў».

Пленум падкрэсьліў, што растлумачальнай рабоце неабходна ўзяць за аснову растлумачэньне таго, што колгасьнікі і аднаасобнікі, акуратна выконваючыя мясазагатоўкі, маюць права ўбою і свабоднага продажу мяса на базарах, а таксама і растлумачыць: «у адносінах да тых, хто будзе ўхіляцца ад сваячасовай здачы (продажу) мяса дзяржаве, будуць ужывацца меры ўзьдзеяньня, прадугледжаныя законам,—гэта значыць, штраф у разьмеры рынчачнай вартасьці мяса

і спагнаньня мяса ў бясспрэчным парадку».

Каб выканаць плян мясазагатовак у тэрмін, неабходна ў бліжэйшыя пяцідзёнкі загатаўляць па 18 тыс. цэнтнэраў.

Конкрэтна аналізуючы ролю пасобных раёнаў у загатоўках, пленум асаблівую адказнасьць за **хлебазагатоўкі** ўсклаў на такія раёны: Ворша, Бабруйск, Быхаў, Копыль, Пухавічы, Чавусы і т. д.; па **ільнозагатоўках**—на Гарадок, Лёзна, Мсьціслаўль, Полацк, Шклоў, Дуброўна, Сенна, Сіроціна і т. д.; па **мясазагатоўках**—на Слуцк, Копыль, Магілеў, Ворша, Гомель, Пухавічы і т. д.

Неабходна, каб такія моцныя організацыі, як Магілеўская, Віцебская, Гомельская, Бабруйская, Аршанская, Рэчыцкая і інш., паказалі ўзоры бальшавіцкай барацьбы за хлеб, бульбу мяса, лён.

Да ўстанаўленьня ЦК тэрміну выкананьня загатовак асталіся літаральна лічаныя дні. **Асабліва рэзка стаіць пытаньне аб ільнозагатоўках.**

Рашаючае значэньне будзе мець мобілізаванасьць **раённага актыву.**



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ЦК падобна пэрыоду ўборкі і адгрузкі бульбы Ленінграду ужо мобілізаваў усіх сваіх кіруючых работнікаў на чале з т. Гікала на загатоўкі. Неабходна, каб райкомы і РВК праявілі такую-ж самую мобілізаванасьць у барацьбе за **дакладнае** і поўнае выкананьне загатовак.

## 3. ПАВЫШЭНЬНЕ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ—ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

### Ад росту ўшырыню—да росту ўглыбіню

КП(б)Б пераможна завяршыла першы этап соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Трэцяя бальшавіцкая вясна пацьвердзіла, што БССР разам з усімі рэспублікамі Савецкага саюзу канчаткова ўмацавалася на новым соцыялістычным шляху. Пытаньне «хто каго» вырашана на карысьць соцыялізму. Стаўка Прышчэпавых і К-°, якія імкнуліся праз хутарызацыю, праз насаджэньне так званых «культурных» (кулацкіх) гаспадарак рэстаўраваць капіталізм—біта.

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

Соцыяльна-экономічны твар новай беларускай вёскі зусім іншы. Каля паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'ядналіся ў колгасы. Соцыялістычны сэктар засеяў 60 проц. усёй пасеўнай плошчы. Пад сельскую гаспадарку падведзена магутная машынная база. Па БССР ужо організавана 57 машына-трактарных станцый з трактарным паркам у 32 597 конскіх сіл.

На аснове машынізацыі і колектывізацыі БССР хутка ператвараецца з краіны спажываючай у краіну вытвараючую. Умацоўваецца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі ў напрамку разьвіцьця тэхнічных культур і продукцыйнай жывёлагадоўлі. Пасеўная плошча ў параўнаньні з даваенным часам (1913 г.) узрасла на 1 069 тыс. **га**, плошча пад ільном павялічылася на 172 тыс. **га**, пад бульбай—на 267 тыс. **га.** Організаваны 82 саўгасы буйнай рагатай жывёлы з пагалоўем у 27 742 штук, 137 сьвінасаўгасы з пагалоўем у 105 тыс. сьвінаматак. Па колгаснай сыстэме створана 1 607 МТКФ з пагалоўем у 179 374 штук, 2 200 СТКФ з пагалоўем у 185 тыс. сьвінаматак. Лічбы гаво-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

рацць самі за сябе, яны сьведчаць аб вялізарных перамогах КП(б)Б, якія атрыманы на шляху соцыялістычнай рэканструкцыі беларускай вёскі.

Сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б са ўсёй вастрынёй паставіў новую задачу—крута павярнуць сельскую гаспадарку ад росту ўшырыню, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, да павышэньня ўраджайнасьці па ўсіх бяз выключэньня культурах. Якасьць работы, узьняцьце продукцыйнасьці працы, павышэньне таварнасьці гаспадаркі—вось задача задач кожнай партарганізацыі, кожнай партячэйкі. Барацьба за агротэхніку—гэта ёсьць новы крок наперад, працяг соцыялістычнага наступу на вёсцы, новымі, больш эфэктыўнымі сродкамі. Пры ўмовах конкрэтнасьці работы, опэратыўнасьці ў кіраўніцтве, веданьня жывых людзей, бязумоўна можна будзе дасягнуць значных паказальнікаў па павышэньні ўраджайнасьці ўжо ў першым годзе другой пяцігодкі.

У сваім выступленьні на пленуме т. Шаранговіч, указаў: «У першую чаргу перад намі стаіць востра, як

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ніколі, пытаньне аб тым, каб **значна палепшыць кіраўніцтва сельскай гаспадаркай**, аб тым, каб, пачынаючы з ЦК, СНК, НКЗ, з плянуючых органаў і канчаючы раёнамі, ячэйкамі і самымі нізавымі органамі, значна палепшыць кіраўніцтва ўсімі процэсамі соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## За бальшавіцкія тэмпы павышэньня ўраджайнасьці

Па БССР ураджайнасьць яшчэ надзвычай нізкая. У параўнаньні з перадавымі капіталістычнымі краінамі, яна ўпрост мізэрная. Калі ў Бэльгіі ў сярэднім з аднаго **га** (1925 г.) атрымана: жыта—23 **ц**, ячменю—25 **ц**, аўсу—18,8 **ц**, дык у БССР (1930 г.) атрымана з аднаго **га**: жыта—8 **ц**, ячменю—7 **ц**, аўсу—8,5 **ц**. Калі ў колгасе імя М. Горкага, Домжарыцкага сельсавету, Бягомльскага раёну, жыта з аднаго **га** атрымана 120 пуд., дык ў саўгасе Дарашэвічы, Пятрыкоўскага раёну, са 100**га** атрымана 700 пудоў—па 7 пуд. з **га.** Там, дзе ёсьць культурны, вопытны орга-

нізатар, дзе ліквідавана абязьлічка зямлі—створаны сталыя вытворчыя брыгады; дзе ўжываліся агротэхнічныя мерапрыемствы, дзе на чале колгасаў і саўгасаў стаяць моцныя бальшавікі,—там атрыман больш высокі ўраджай. Там-жа, дзе праца не арганізавана, дзе існуе безадказнасьць кіраўнікоў, бяскультурнасьць у сыстэме вядзеньня гаспадаркі, там, дзе вядзе работу кулак і яго агентура—там ураджайнасьць нізкая, ганебная.

Ігнараваньне самых прасьцейшых агротэхнічных мерапрыемстваў вельмі шкодна адбіваецца на ўраджайнасьці, на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасу. Урокі асеньняй сяўбы і зябліва павінны быць поўнасьцю ўлічаны ў 1933 г. Па БССР у вызначаны партыяй і ўрадам тэрмін (да 10 верасьня), засеяна толькі 44,2 проц. азімых. Астатняя плошча ў 623 тыс. га засеяна са значным спазьненьнем. Паводле даных вопытаў Менскай сэлікцыйнай станцыі ўраджайнасьць жыта з аднаго га, якое пасеяна да 10 верасьня (разам з іншымі агромерапрыемствамі дае)—14 ц, а позьні пасеў дае ня больш

ДЛЯ ЗАЎВАГ

8 **ц.** Такім чынам з прычыны позьняга пасеву, мы ў 1933 г. недаатрымаем каля 3737 тыс. **ц** збожжа. Плян зябліва па БССР, згодна саюзнаму пляну (850 тыс. **га**) выканан, па рэспубліканскаму—толькі на 56 проц. Плошча ў 659 тыс. **га** не зазяблена. А між тым зябліва павышае ўраджайнасьць на 15—20 проц. Букшанскі колгас, Тураўскага раёну, ад пасеву па асеньнім ворыве атрымаў з **га** лішніх 4,4 **ц** ячменю, а Дварэцкі колгас, таго-ж раёну, атрымаў лішніх па 6,6 **ц** з **га.** Ужо самыя прасьцейшыя, даступныя ўсім колгасам, агротэхнічныя мера-прыемствы значна павышаюць ураджайнасьць соцыялістычных палёў.

Перамога колгаснага будаўніцтва, стварэньне буйнай соцыялістычнай гаспадаркі, даюць магчымасьць зараз-жа распачаць шырокі паход за ўкараненьне навейшых дасягненьняў агротэхнічнай навукі. Магчымасьці соцыялістычнай гаспадаркі вялізарныя. Мы можам у другой пяцігодцы ня толькі дагнаць, але і перагнаць па ўраджайнасьці перадавыя капіталістычныя краіны. Заданьне ЦК КП(б)Б аб павышэньні ўраджайнасьці збожжавых

ДЛЯ ЗАЎВАГ

(у 1933 г.) да 8,5 **ц**, бульбы да 110 **ц** і льну—3 **ц**, можна выканаць з посьпехам.

**Плянаваньне колгасаў на вышэйшую ступень**

Пленум ЦК зацьвердзіў агульную засеўную плошчу яравых на 1933 г. ў 2688 тыс. **га**, у тым ліку збожжавых—1365 тыс. **га**, тэхнічных—280 тыс. **га** і бульбы—610 тыс. **га**. Пасьпяховасьць у выкананьні вызначаных плянаў будзе залежаць ад таго, наколькі партыйныя і зямельна-калгасныя організацыі конкрэтна падыйдуць да складаньня плянаў на мясцох. Трэба адкінуць мэханічны падыход, вывучаць прыродна-экономічныя ўмовы кожнага колгасу і тым самым узьняць колгаснае плянаваньне на вышэйшую ступень, падпарадкаваць вытворча-фінансавы плян кожнага колгасу агульным інтарэсам пролетарскай дзяржавы.

У бягучым годзе вельмі часта як па раёнах, так і па колгасах пляны складаліся формальна, габінэтным парадкам, бяз удзелу мас. Ёсьць шмат фактаў, калі лічбы браліся са столі, не абгрунтоўваліся. Так, Дры-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сенскаму раёну было дана заданьне—засеяць у 1933 г. плошчу ў 56 тыс. га. Раённыя-ж організацыі гэтую лічбу запроектавалі на 1937 г. Полацкаму раёну было дана заданьне засеяць у 1932 г.—82 тыс. га, на 4145 га больш наяўнай плошчы, а потым было дана другое заданьне—74 тыс. га—на 3855 га менш наяўнай плошчы. Колгасу «Герой працы» Бягомльскага раёну па веснавой сяўбе было дана заданьне засеяць 247 га. Зямлі-ж (разам з аднаасобнымі гаспадаркамі данай вёскі) налічвалася ня больш 162 га. Такіх фактаў «мудрага» плянаваньня вельмі шмат. Ня меншыя кур'ёзы бываюць і з наданьнем адпаведнай спэцыялізацыі таму ці іншаму раёну або колгасу. Тураўскаму раёну надан жывёлагадоўча канопляводчы ўхіл. Каноплі тут растуць вельмі дрэнна. Пянькі атрымліваюць замест звычайных 6-7 ц толькі 2,5 ц з га. Лён-жа ў Тураўшчыне расьце вельмі добра. Зразумела, што Тураўскаму раёну лепш надаць жывёлагадоўча - ільняны ўхіл. У колгасах «Чырвоны баец», «Веснаход», «Судзібор» Петрыкаўскага раёну організаваны сьвінага-

доўчыя фэрмы. З-за недахопу концэнтраваных кармоў тут фэрмы існаваць ня могуць. За тое арганізацыя фэрм буйнай рагатай жывёлы прынесла-б для гэтых колгасаў вялікую карысьць. Тут ёсьць вялікія плошчы сенажаці, якія поўнасьцю забясьпечаць МТКФ грубымі кармамі. Усё гэта прымушае больш уважліва, усебакова вывучыць гаспадарку пры ўстанаўленьні спэцыялізацыі.

Згодна дырэктыў пленуму да 1 студзеня 1933 г. да кожнага колгасу трэба давесьці плян веснавой сяўбы, скласьці вытворча-фінансавы плян на 1933 г. Вытворча-фінансавы плян павінен зьявіцца магутнай зброяй у барацьбе за ўраджайнасьць, за павышэньне продукцыйнасьці працы. У пляне трэба прадугледзець усе ўнутраныя магчымасьці колгасу, якія можна скарыстаць для павышэньня таварнасьці гаспадаркі, павышэньня вартасьці колгаснага працадня. Вытворча-фінансавы плян будзе рэальным, жыцьцёвым толькі тады, калі ён будзе абгаворан шырокімі масамі колгасьнікаў і ў першую чаргу з колгасным актывам.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## Севаабарот—гэта агротэхніка, экономіка, палітыка

Некаторыя работнікі глядзяць на севаабарот, як на голае чаргаваньне культур. Яны не ўяўляюць сабе, што севаабарот зьяўляецца самым лепшым сродкам у павышэньні ўраджайнасьці. Мала таго, севаабарот адлюстроўвае ў сабе выкананьне плянавага заданьня пролетарскай дзяржавы па лініі сельскай гаспадаркі. Па Савецкай Беларусі пры ўвядзеньні севаабароту трэба ўлічваць забясьпечаньне кармамі жывёлагадоўлі, разьвіцьцё тэхнічных культур: ільну, пянькі, бульбы. У мэтах стварэньня ўласнай кармовай базы для соцыялістычнай жывёлагадоўлі ў севаабаротах абавязкова трэба прадугледзець пашырэньне плошчаў пад збожжавымі культурамі (концэнтраваныя кармы). Кожная спэцыялізаваная гаспадарка павінна мець і свой адпаведны **тып** севаабароту.

Па саўгасах і колгасах БССР на сёнешні дзень севаабарот ня ўведзены. У тых-жа гаспадарках, дзе ён уведзен, існуе толькі на паперы. Па Ветрынскай МТС (дырэктар

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

Суднік) лічылася 8 колгасаў, якія севаабарот увялі. Пры праверцы-ж аказалася, што гэтыя севаабароты ў выглядзе схэматычных плянаў, пераходных табліц ляжаць у канцылярыях, і на палёх—хаос і неразьбярыха. Бяз удзелу саміх колгасьнікаў, без скарыстаньня вопыту лепшых гаспадарнікаў севаабарот у колгасах не ўвядзеш.

Пленум ЦК КП(б)Б даў дырэктыву зямельна-колгасным органам і партыйным організацыям на працягу 1933 г. у кожным колгасе і саўгасе ўвесьці севаабарот. Наркомзему даручана да 1 студзеня распрацаваць і даслаць па раёнах тыпавыя севаабароты. Абавязак праўленьняў колгасаў — загадзя падрыхтаваць усе зьвесткі, усе даныя, якія патрэбны для ўвядзеньня севаабароту. Агроном-жа, улічваючы ўсе ўмовы гаспадаркі (глеба, рэльеф, тэрыторыя), разам з актывам абгаварвае тыповы севаабарот і канчаткова зацьвярджае яго на агульным сходзе колгасьнікаў. Неабходна, нарэшце, зразумець, што пытаньне аб севаабароце — гэта адзін з вучасткаў клясавай барацьбы, што рэшткі кулацтва ў сваёй



ДЛЯ ЗАЎВАГ

барацьбе супроць соцыялістычнай пераробкі вёскі, імкнуцца сарваць справу севаабароту, спэкулюючы на традыцыйных адсталых мэтодах сяўбы і пашыраючы ілжывыя легенды аб нявыгаднасьці севазвароту.

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

### Масы павінны аўладаць агротэхнічнымі ведамі

Пленум з усёй сілай падкрэсьліў важнасьць і неабходнасьць аўладаньня агротэхнікай і тэхнікай буйнай соцыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасьці. Барацьба за масавае аўладаньне агротэхнічнымі ведамі непасрэдна зьвязана з барацьбой за далейшае організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за соцыялістычнае перавыхаваньне колгасьнікаў, супроць рэштак кулацтва, супроць кулацкага ўплыву. Пленум паставіў конкрэтную задачу—агротэхнікай у першую чаргу павінны аўладаць: раённы актыў, кіраўнікі МТС, саўгасаў, колгасаў, загадчыкі фэрм, брыгадзіры і работнікі сельсаветаў. У сучасны момант нельга кіраваць так, наогул. Сакратар РК КП(б)Б

ільнаводчага раёну павінен мець асноўныя веды па ільнаводзтве; жывёлагадоўчага — жывёлагадоўлі і т. д.

Па БССР агрономічных кадраў налічваецца 1 490 чал. Значная частка агрономаў загружана непатрэбнай, канцэлярскай работай. Агроном Бярэзінскага раёну тав. Хлапіцкі піша: «Агроспэцыялісты ў нас выкарыстоўваюцца, дзе хочаш — у канцэлярыях, у якасьці статыстыкаў і т. д., толькі не на агрономічнай працы». Агроном Магілеўскай МТС т. Врублеўскі проста заяўляе: «Агрономы сыстэматычна зьбіраюць па калгасах зьвесткі, а пытаньнямі агротэхнікі не займаюцца, бо на гэта не хапае часу». Пленум абавязаў зямельныя органы: «забясьпечыць скарыстаньне кожнага агранома, вэтурача і зоотэхніка на непасрэднай вытворчай рабоце (ня менш 80 проц. часу працаваць непасрэдна ў саўгасах, колгасах, на полі). У матэрыяльным забесьпячэньні агропэрсонал прыраўніваецца да інжынэрнатэхнічнага пэрсоналу прамысловасьці».



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Навукова - дасьледчыя ўстановы, зональныя станцыі маюць пэўныя посьпехі, асабліва за апошнія гады. Напрыклад, Горацкая ільняная станцыя вывяла 5 чыстых ліній ільну, правяла вопыты звышраньняга пасеву, вопыты атрыманьня двух ураджаеў ільну ў год і т. д. Менская сэлекцыйная станцыя атрымала безалькалёідны лубін. Сьвінагадоўчы інстытут правёў вопыты над вырошчваньнем мясцовай беларускай сьвіньні, падабраў рад новых кармовых культур: рапс, кармовая капуста, пайза, тапінамбур і інш. Аднак, дасягненьні слаба ўкараняюцца ў саўгасна-колгасную вытворчасьць. Яшчэ не наладжана цесная сувязь навуковых устаноў з саўгасамі і колгасамі. Дасьледчыя станцыі нават ня зьвязаны, ня выкарыстоўваюць вопытаў аматараў-дасьледчыкаў (аматары разьвядзеньня вінаграду: Лугавы са Слуцку, Руткоўскі — з Рагачова). Трэба перадаць увесь багаты вопыт навукова-дасьледчых устаноў (праз папулярную літаратуру, плякаты, лекцыі, гурткі, жывую сувязь) рабочым саўгасаў, МТС і колгасьнікам. Разам з мяс-

цовым агротэхпэрсоналам у кожным раёне організаваць апорную паказальную соцыялістычную гаспадарку. На вопыце паказальнага саўгасу або колгасу, вакольныя гаспадаркі будуць вучыцца, як трэба культурна апрацоўваць палі, атрымліваць высокія ўраджаі.



## МТС—кіраўнікі колгасаў у галіне агрономіі

Машына-трактарныя станцыі — самы магутны вагар організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Тураўская МТС паказала ўзор барацьбы за ўкараненьне агротэхнікі, яна сваячасова выканала плян зябліва на 105 проц. Асьвейская-ж МТС на зябліве з 29 трактараў скарыстоўвала толькі 14, а астатнія машыны былі выведзены са строю. Зразумела, што плян зябліва тут ня выканан. Па Сурасскай МТС прастоі трактараў за трэці квартал складаюць 68 проц., гаперавыдаткавана за 9 месяцаў гаручага 30 тон, нормы выпрацоўкі выконваліся на 50 проц. Прычыны нерацыянальнага скарыстаньня трактарнага парку — у слабай ква-

лiфiкацыi кадраў, асабліва руля-
вых. Ауладаць машынай, падрых-
таваць за зіму кваліфікаванага
трактарыста з тым, каб выкары-
стаць поўную магутнасьць кожна-
га трактара — вось баявая задача
дырэкцыі МТС.

Да сёнешняга дня мала аддавала-
ся ўвагі якасьці апрацоўкі глебы
трактарамі. Невыпадковай зьяў-
ляецца заява сялянкі, якая, нібы
жартуючы, кінула рэпліку: «урад-
жай зьнiзiўся, таму што трактары
папсавалі зямлю». Недарма ў кал-
гасе імя Дзяржынскага, пад Мен-
скам, на другі-ж дзень пасьля ра-
боты трактарнай колёны прышло-
ся далікатна папрасіць трактары-
ста пакінуць поле, бо трактарная
колёна не забясьпечыла добраякас-
най апрацоўкі улебы.

Трактарысты не інструктуюцца і
ім нават не даецца ўказаньняў, на
якім вучастку і на якую глыбіню
трэба араць. Агрэхі — вельмі ча-
стая зьява ў рабоце трактарыстаў.
Усё гэта ня спрыяе павышэньню
ўраджайнасьці.

Дырэктыва колегіі НКЗ СССР аб
аплаце колгасамі работы МТС ня
толькі па колькасьці, але і па

ДЛЯ ЗАЎВАГ

якасьці апрацоўкі глебы—ня выконваецца. Аплату работы МТС трэба паставіць у простую залежнасьць ад якасьці работы, ад ужываньня агротэхнічных мерапрыемстваў, ад атрыманага колгасам ураджаю. У праграму падрыхтоўкі трактарыстаў павінны ўключыцца пытаньні ня толькі аўладаньня самой машынай, але аўладаньня і агротэхнікай. Дрэнным будзе той трактарыст, які ня ведае правілаў апрацоўкі, пасеву, унясеньня ўгнаеньняў і інш. Кожная МТС мае ўсе ўмовы для таго, каб стаць сапраўдным застрэльшчыкам у галіне ўкараненьня агротэхнікі, атрыманьня высокіх ураджаеў.

### Сталая брыгада—асноўнае вытворчае зьвяно

Сталая вытворчая брыгада — вось тое асноўнае вытворчае зьвяно, за якое трэба ўхапіцца ў сувязі з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы. У гэтым годзе значная частка брыгад, якія былі створаны вясной, улетку распалася. У часе ўборкі і асеньняй сяўбы і зябліва палявыя вучасткі былі абязьліча-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ны. Адсюль вялікая страта збожжа, ільну, бульбы. У 1933 г. сёлетніх памылак паўтараць нельга. Разам са складаньнем вытворча-фінансавых плянаў павінны ствараца і сталыя вытворчыя брыгады. Даць брыгадам конкрэтную праграму работ на цэлы год, растлумачыць, што чым лепш брыгада правядзе сяўбу, поліва і ўборку, чым вышэйшы ўраджай атрымае, тым лепш для брыгады, тым вышэй будзе ацэньвацца працадзень.

У колгасе «Ленінскі шлях», Крысенскага раёну лепшая брыгада № 1 (брыгадзір Харчанка), якая актыўна змагалася за высокі ўраджай, атрымлівае на адзін працадзень больш, чым горшая брыгада № 5 (брыгадзір Смольскі): збожжавых на 2,2 **кг**, кармоў — на 4,7 **кг** і грашыма на 46 кап. Тут поўнасьцю зьдзейсьнен лёзунг «хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае». Па прыкладу колгасу «Ленінскі шлях» павінна праводзіцца разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю па ўсіх колгасах БССР.

Разьмеркаваньне павінна праводзіцца пасьля выкананьня пляну

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

дзяржаўных загатовак і пасьля стварэньня насенных фондаў.



Перадавыя колгасы абавязаны ўзяць на буксір адстаючых, перадаць ім свой вопыт барацьбы за выкананьне сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай, паказаць, як яны правялі ў сябе разьмеркаваньне даходаў па працаднёх, па колькасьці і якасьці працы.

## Загадзя падрыхтавацца да веснавой сяўбы

Пленум даў усім раённым парторганізацыям жорсткую дырэктыву— сяўбу першага году другой пяцігодкі правесьці ў максымальна раньні і ўшчыльнёны тэрмін (ад 15 да 20 дзён). Гэта патрабуе ад кожнай організацыі сваячасовай і ўсебаковай падрыхтоўкі да сяўбы. Першачарговая задача кожнага колгасу, саўгасу, паселішча — выканаўшы плян загатовак, у абавязковым парадку да 15 студзеня засыпаць поўнасьцю насенныя і страхавыя фонды. Насеньне павінна быць ачышчана, адсартавана, засыпана ў засекі і здана на хаваньне пад пэрсональную адказ-

насьць вылучанага праўленьнем колгасу таварыша.

Рамонт трактараў, сельгасмашын і інвэнтару закончыць да 15 сакавіка 1933 г. Трактарныя майстэрні, саўгасы, колгасы павінны скласьці каляндарныя пляны рамонту машын. Для прыёмкі адрамантаванага інвэнтару вылучаюцца комісіі, якія сочаць за добраякасцю рамонту. Недобраякасна адрамантаваны інвэнтар ад майстэрні ня прымаецца. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на так званыя «дробязі». Зімовы час скарыстаць для віцьця вяровак, рамонту збруі, падрыхтоўкі дробных запасных частак для сельгасінвэнтару.

Гной пакуль што зьяўляецца асноўным сродкам для павышэньня ўраджайнасьці. Абавязак кожнага колгасу — заахвочваць скотнікаў і конюхаў у павялічэньні колькасьці гною, скарыстаўшы для подсьцілу лісьце, торф і інш. падсьцілачны матарыял. Пры гэтым павінна быць захавана строгая экономія грубых кармоў.

У веснавой сяўбе аднаасобнікі яшчэ будуць займаць значнае мес-

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

ца. Трэба змагацца з «лявацкай» недаацэнкай аднаасобніка. Мобілізацыя ўнутраных насенных рэсурсаў у мэтах поўнага выкананьня плянаў па сяўбе, аказаньне агротэхнічнай дапамогі (ачыстка, пратручваньне, радковы пасеў), арганізацыя і забесьпячэньне інвэнтаром, сваячасовае давядзеньне цьвёрдых заданьняў да кулацказаможных гаспадарак—вось задача ў адносінах да аднаасобнага сэктару. Організацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, узорная падрыхтоўка да сяўбы, бязумоўна, забясьпечыць прыліў у колгасы новых серадняцкіх гаспадарак.

Барацьба за павышэньне ўраджайнасьці праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Рэшткі кулацтва ўсімі формамі і мэтодамі імкнуцца і будуць імкнуцца адцягнуць колгасы назад, будуць выступаць супроць агротэхнічных мерапрыемстваў, будуць компромэнтаваць ініцыятыву колгаснага актыву. Толькі пры ўмовах самай жорсткай барацьбы з кулаком і яго агентурай — правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай і «левымі» опортуні-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

стамі, выкарчоўваючы закаранеласьць, руціну, абломаўшчыну ў нашым апараце, можна будзе пасьпяхова падрыхтавацца да веснавой сяўбы.

## 4. АБ ПЕРАБУДОВЕ РАБОТЫ МАСАВАЙ ШКОЛЫ, ВНУ, ВТНУ І ТЭХНІКУМАЎ

### Аб будаўніцтве масавай школы

У сваім гістарычным рашэньні ад 25 жніўня 1932 г. «Аб програмах і рэжымах ў сярэдняй і пачатковай школе», ЦК УсеКП(б) намеціў програму будаўніцтва савецкай політэхнічнай школы на сучасным этапе. ЦК УсеКП(б) у гэтым рашэньні ўскрыў усе недахопы ў рабоце масавых школ, якія тармазілі перабудовы савецкай масавай школы,—а ў задачу апошняй ўваходзіць падрыхтоўка сьвядомага будаўніка бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва, з аднаго боку, і з другога—масавая школа павінна падрыхтаваць кадры для запаўненьня ВНУ і ВТНУ. 5 верасьня 1931 г. ЦК УсеКП(б) вынес пастанову аб масавай школе, у якой дан кон-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

крэтны аналіз карэнным недахопам школы і намечаны практычныя мерапрыемствы ў адносінах ухіленьня гэтых недахопаў і перабудовы школы ў сапраўдную політэхнічную савецкую школу. Год работы паказаў, што органы народнай асьветы і самі школы рашучых зрухаў у галіне перабудовы школы не зрабілі. Недахопы, адзначаныя ў рашэньні ЦК ад 5 верасьня 1931 г., астаюцца недахопамі і цяпер, а іменна:

1) Програмы астаюцца перагружанымі вучэбным матэрыялам. Недастатковасьць і амаль што адсутнасьць увязкі паміж паасобнымі програмамі, наяўнасьць прынцыповых памылак і спрашчэнска-вульгарнага падыходу да складаньня програм, недастатковасьць гістарычнага падыходу да програмы па грамадазнаўству.

2) У мэтодах выкладаньня — укараненьня брыгадна-лябараторнага мэтоду, які вёў да абязьлічкі ў навучаньні і да зьніжэньня кіруючай ролі выкладчыка ў вучэбна-вытворчым процэсе.

3) Слабасьць рэжыму ў школе — парушэньне дысцыпліны і парадку

ў школах, праяўленьні хуліганства і т. д.

4) Мэтодычнае кіраўніцтва органаў народнай асьветы астаецца слабым.

5) Ня выкананы дырэктывы партыі і ўраду ў галіне разгортваньня і завяршэньня будаўніцтва школ і матэрыяльна-бытавога забесьпячэньня будаўніцтва.

IV пленум ЦК КП(б)Б (1—5 сьнежня 1932 г.), заслухаўшы справаздачны даклад Наркомасьветы і садаклад ЦКК РСІ аб практычных мерапрыемствах па выкананьні пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб масавай школе.

IV пленум ЦК КП(б)Б констатаваў, што ёсьць пэўныя посьпехі ў будаўніцтве савецкай політэхнічнай школы БССР.

Да гэтых дасягненьняў трэба аднесьці: 1) разгортваньне сеткі масавых школ—з 1928-29 г. па 1932-33 г. сетка масавых школ вырасла з 5 700 да 6 900 з колькасьцю вучняў ад 503 185 чал. да 993.785 чал. За гэты-ж час бюджэт школы вырас з 13 727 тыс. руб. да 53 140 т. руб.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

2) У 1932 г. завершана ўсеагульнае абавязковае пачатковае навучаньне і ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне на базе сямігодкі; апроч таго практычна прыступлена да ўвядзеньня 10-гадовага абавязковага навучаньня і ўжо ў бягучым годзе арганізавана 40 восьмых груп.

3) Адзначан рост сеткі і колькасьці вучняў у школах нацыянальных меншасьцяй. Так, напрыклад, яўрэйскімі школамі ў 1928 г. было ахоплена 26 531 вуч., а ў 1932 г.—36 560, у польскіх школах у 1928 г. — 8 674, а ў 1932 г.— 17 376. Разьвіваецца школьнае будаўніцтва на мовах іншых нацменшасьцяй.

Аднак пленум ЦК прызнаў, што зрухі, якія ўжо ёсьць у рэалізацыі рашэньняў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, зьяўляюцца зусім недастатковымі. Тэмпы перабудовы школы працягваюць аставацца нездавальняючымі, карэнны недахоп школы яшчэ ня ліквідован, мэтодычнае кіраўніцтва школамі і опэратыўнае кіраўніцтва з боку Наркомасьветы і РайАНА на сёньня зьяўляецца слабым.

Так, напрыклад, у выданых у ліпені — жніўні 1932 г. праграмах для масавай школы ёсьць яшчэ значныя недахопы і нават прынцыповыя палітычныя памылкі. У пастановах, якія вышлі з друку ў пачатку лістападу, першай сэсіі ДВС даны ўстаноўкі на арганізацыю работы паводле так званага брыгадна - лябараторнага мэтоду. ДВБ БССР і ДВС НКА не забясьпечылі 1932-33 навучальны год выданьнем вучэбнай літаратуры. У даны час школы адчуваюць вострую патрэбу ў падручніках, пісьмовых прыналежнасьцях, адсутнасьць якіх адбіваецца на якасьці работы школ, а часамі адсутнасьць падручнікаў прыводзіць да немагчымасьці арганізаваць пэдагогічны процэс.

Пленум ЦК КП(б)Б палітычна завастрыў пытаньне на рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб масавай школе. Пры гэтым пленум ЦК павінен быў прызнаць, «што яшчэ да гэтага часу значная частка раённых і нізавых партыйных, савецкіх, профэсіянальных, комсамольскіх арганізацый, недаацэньваючы вялізарна-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

палітычнага значэньня барацьбы за рэалізацыю пастаноў ЦК партыі аб школе, адсоўваюць гэтую работу на другое месца і нярэдка проціпастаўляюць яе гаспадарчым кампаніям. Гэтыя раённыя партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі не падхапілі і не замацавалі энтузіязму рабочых і ўсіх працоўных мас на выкананьне пастаноў ЦК аб школе, дзякуючы чаму ў гэтых раёнах незадавальняюча праведзена падрыхтоўка да новага навучальнага году і не забясьпечана нормальная работа школы». Да гэтых раёнаў пленум ЦК аднёс такія раёны, як Бярэзінскі, Церахоўскі, Аршанскі, Чашніцкі і Лепельскі. Да важнейшага палітычнага пытаньня пленум ЦК аднёс і такое пытаньне, як матэрыяльнае забесьпячэньне настаўніцтва. Большасьць раёнаў гэтае пытаньне ня вырашыла, як належыць да гэтага часу. Зафіксаван рад адмоўных фактаў у справе снабжэньня настаўніцтва. У Лагойскім раёне ёсьць паасобныя выпадкі нявыхаду настаўнікаў на работу з прычыны адсутнасьці абутку (настаўніца Косіна). У гэ-

тым-жа раёне ў наяўнасьці 172 настаўнікі, а Наркомснаб на IV квартал узяў на снабжэньне 152 чал. З нормы продуктаў, якія належаць настаўнікам Лагойскага раёну, яны атрымліваюць у сельпо і колгасах толькі муку. Круп не атрымліваюць зусім, а цукру не атрымлівалі з 1 мая. У Дрысенскім раёне настаўнікі Бораўскай школы прымацаваны да колгасу «Чырвоны партызан», але з колгасу яны нічога не атрымліваюць. Агульны сход колгасу адмовіўся ў забесьпячэньні настаўніцтва продуктамі і на гэтай падставе старшыня колгасу таксама адмовіў. Сакратар-жа ячэйкі т. Беразьняцкі, да якога зьвярнуліся настаўнікі, толькі паабяцаў уладзіць пытаньне, але нічога не зрабіў. У гэтым-жа раёне выкладчыкі Дзярновіцкай ШКМ два месяцы не атрымлівалі хлеба, дзякуючы таму, што формальна былі прымацаваны да колгасу бяз уліку матэрыяльнай магчымасьці колгасу. У Горацкім раёне, у радзе сельсаветаў, настаўнікі ходзяць і харчуюцца па чарзе ад аднэй да другой хаты.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Нездавальняюча ў шмат якіх сельсаветах пастаўлена справа ў сэнсе сваячасовай выплаты заработнай платы. Зарэгістравана многа выпадкаў, калі настаўнікі не атрымліваюць зарплаты па некалькі месяцаў, прычым сельсаветы пры патрабаваньні настаўнікамі зарплаты пасылалі іх для збору ўсіх відаў плацяжоў для таго, каб настаўнікі самі сабралі сабе фонд зарплаты.

4) Пленум ЦК КП(б)Б асаблівую ўвагу ўдзяліў пытаньням матэрыяльнай забясьпечанасьці школ, у прыватнасьці — будаўніцтву школ. Па ўсёй БССР знаходзіцца ў стане будаўніцтва 426 об'ектаў. Плян будаўніцтва выканан на 50 проц. Плян-жа будаўніцтва гэтага году выканан толькі на 15 проц., прычым 18 школ будаваць яшчэ і не пачалі.

Пленум падкрэсьліў, што важнейшай і рашаючай задачай усіх органаў наркомасьветы, партыйных, профсаюзных і комсамольскіх організацый зьяўляецца «ўпорная барацьба за павышэньне граматнасьці вучняў, за грунтоўнае аўладаньне імі асновамі навукі, за выхаваньне з іх сьвядомых і ак-

тыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва».

Да якіх-жа прапаноў прышоў пленум у пытаньні аб перабудове работы масавых школ?

1. У галіне матэрыяльнага снабжэньня школ: а) пленум ЦК абавязаў ГК і РК забясьпечыць сканчэньне будаўніцтва ўжо пачатых школ да 1 жніўня 1933 г., лічачы будаўніцтва школ першачарговай і ўдарнай задачай. Пленум ЦК зьвяртае ўвагу мясцовых парторганізацый на мобілізацыю наяўных рэсурсаў на мясцох; б) пленум ЦК адзначыў, што, ня гледзячы на рад даных дырэктыў адпаведным наркоматам, да гэтага часу ня прыступлена да організацыі вырабу для школ політэхнічнага і вучэбнага абсталяваньня. Пленум ЦК катэгорычна запрапанаваў на працягу месячнага тэрміну вызваліць усе школьныя будынкі, занятыя другімі ўстановамі і прыватнымі асобамі, якія ня маюць ніякіх адносін да школ.

2. У мэтах выкананьня програмы партыі ў адносінах увядзеньня абавязковага ўсеагульнага і політэхнічнага навучаньня ўсіх дзяцей і

ДЛЯ ЗАЎВАГ

падросткаў да 17 год, пленум ЦК знайшоў неабходным запрапанаваць НКА і Дзяржпляну «прыступіць да распрацоўкі пляну ўвядзеньня ў БССР ўсеагульнага навучаньня за 10-гадовую школу, улічваючы неабходнасьць першачарговага разгортваньня дзесяцігодак у прамысловых цэнтрах і важнейшых сельскагаспадарчых раёнах».

3. Пленум, падкрэсьліваючы «вялізарнае прынцыповае значэньне выхаваньня ў савецкай школе сьвядомай пролетарскай дысцыпліны», запрапанаваў органам НКА разам з пролетарскай грамадзкасьцю разгарнуць шырокую работу па стварэньні неабходнай дысцыпліны праз сыстэму пэдагогічна-выхаваўчага ўзьдзеяньня на вучняў, узмацненьня пэдагогічнай прапаганды сярод дзяцей, прымяняючы выключэньне апошніх са школ толькі ў выключных выпадках.

У справе выхаваньня сьвядомай дысцыпліны адказная роля кладзецца на выкладчыка, а таму падняцьце яго аўторытэту зьяўляецца неабходнай умовай у барацьбе за дысцыпліну.

4. НКА ў сваіх дырэктыўных пастаноўках дапусьціў рад памылак тым, што пропогандаваў у якасьці мэтоду работы так званы брыгадна-лябораторны мэтод. Пленум ЦК запрапанаваў зараз-жа ліквідаваць мэтодычнае прожэктарства, падкрэсьліў неабходнасьць рашучай барацьбы з імкненьнем да звароту к старой славеснай школе, а таксама ігнараваньнем самастойнай работы вучняў.

5. Пленум ЦК у сваіх рашэньнях зьвяртае ўвагу нават на такую «дробязь», як на чыстату памяшканьня, цёплую школу, вэнтыляцыю кляс і т. д. Адсутнасьць у нашых школах гэтай «дробязі» адмоўным чынам адбіваецца на якасьці работы школы. Да пленуму ЦК зафіксавана шмат выпадкаў, калі школы не працавалі з прычыны холаду ў іх, прычым сельсаветы ў такіх выпадках не ўдзялялі належнай увагі ў сэнсе стварэньня ўмоў для работы школ.

6. Проблема падрыхтоўкі кваліфікаваных пэдагогічных кадраў для масавай школы грае першараднай важнасьці ролю. А таму, пленум ЦК запрапанаваў «прысту-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

піць да паступовай замены кароткатэрміновай курсавой падрыхтоўкі настаўнікаў — нормальнай, праз пэдтэхнікумы, пэдінстытуты і завочнае навучаньне».

**Аб вышэйшай школе і тэхнікумах**

Пленум ЦК заслухаў справаздачныя даклады НКП, Наркомзему, НКЛП, упаўнаважанага НКЦП і садаклад ЦКК РСІ аб мерапрыемствах па выкананьні рашэньняў ЦК УсеКП(б), ЦВК СССР аб перабудове вышэйшай школы і тэхнікумаў.

Пленум ЦК адзначыў рад рэальных дасягненьняў у будаўніцтве вышэйшай школы і тэхнікумаў. За гады першай пяцігодкі сетка ВТНУ вырасла з 4 да 32, а тэхнікумаў з 30 да 132. Плюс да гэтага мы маем 61 рабфак. Колькасьць студэнтаў вырасла з 10 073 чал. у 1927-28 г. да 47 330 чал. у 1932 г. Павысілася і адносная вага пролетарскай праслойкі сярод студэнцтва з 50 проц. у 1930 г. да 66 проц. у 1932 г.

Вышэйшая школа зрабіла значны паварот у сэнсе шчыльнай су-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вязі сваёй штодзеннай работы з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва. Вырасьлі новыя кадры навуковых работнікаў да 1600 чал. Паляпшаецца соцыяльны склад навуковых работнікаў і іх навуковая кваліфікацыя.

Паводле пастаноў ЦВК СССР ад 19 верасьня 1932 г. вышэйшая школа і тэхнікумы павінны зрабіць пералом у якасьці вучобы, перабудаваўшы праграму, вучэбныя пляны і мэтоды выкладаньня ў тым напрамку, каб ВТНУ і тэхнікумы давалі сапраўды кваліфікаваныя кадры для ўсіх галін народнай гаспадаркі. Пленум ЦК констатаваў, што тыя нязначныя зрухі, якія ёсьць у перабудове ВТНУ і ВНУ, а таксама тэхнікумах, зьяўляюцца зусім недастатковымі.

ВТНУ, ВНУ і тэхнікумы мелі ўсе тыя недахопы, аб якіх гаворыцца ў пастанове ЦВК СССР ад 19/IX-32 г., а іменна: «аднабаковая ўвага да колькаснага росту сеткі і вучняў пры зусім недастатковай увазе да пытаньняў якасьці навучальнай падрыхтоўкі, празьмернае драбленьне ВНУ і спэцыяльнасьцяй, наяўнасьць фактаў мэтодыч-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

нага прожэктарства ў мэтодах навучаньня, скажэньні і буйныя недахопы ў практыцы правядзеньня брыгадна - лябораторнага мэтоду, які ўжываўся як усеагульны і абавязковы, што прыводзіла да значнага зьніжэньня якасьці навучаньня, буйныя недахопы ў праведзеньні бесьперапынна - вытворчай практыкі, — мелі і маюць яшчэ месца ў рабоце вышэйшай школы БССР».



Факты:

1. У Менску у харчовым тэхнікуме было 15 спэцыяльнасьцяй. У большасьці ВНУ профілі складаліся самімі ВНУ бяз увязкі з запатрабаваньнямі адпаведных галін народнай гаспадаркі, а таму яны амаль праз кожныя тры месяцы мяняліся (ВХТІ, Вэтэрынарны інстытут — Віцебск; Кармовы інстытут — Горкі і т. д.).

2. Брыгадна - лябораторны мэтод зьяўляўся ва ўсіх ВНУ унівэрсальным, які ў практыцы прымяненьня прыводзіў да тых скажэньняў, аб якіх гаворыцца ў пастанове ЦВК СССР. Будінстытут (Менск) у палажэньні аб арганізацыі вучэбнай работы на 1931-

32 навучальны год піша: «Брыгада па кожным заданьні павінна даць ацэнку кожнаму студэнту, як ён прапрацаваў заданьне. Гэтая ацэнка, як матэрыял, перадаецца выкладчыку, які, улічваючы мысьлі студэнтаў, робіць канчатковую ацэнку прапрацоўкі тэмы кожным студэнтам».

3. Ня вызначаліся вядучыя дысцыпліны, адсутнічала неабходная ўвязка паміж паасобнымі дысцыплінамі.

4. Быў праяўлен няўважлівы падыход да вызначэньня навуковай прыгоднасьці навуковых работнікаў. Пры праверцы ДВС аказалася, што сярод профэсарскага і доцэнцкага складу апошніх двух год ёсьць частка такіх, якія нікім не зацьверджаны. Былі выпадкі, калі профэсароў і доцэнтаў зацьвярджаў БКС або Сьвінаводтрэст.

5. Яшчэ ня ўсе ВНУ пераключыліся на работу паводле пастановы ЦВК СССР. Да гэтага часу не перагледжана сетка вышэйшых школ і тэхнікумаў, не ўстаноўлены профілі навучальных установ, не перагледжаны вучэбныя пляны і праграмы, не разгорнута работа па

ДЛЯ ЗАЎВАГ

стварэньні вучэбнай і навукова-тэхнічнай спэцыяльнай літаратуры. Зусім недастаткова ўдзяляецца ўвага падбору кваліфікаваных кадраў — профэсароў і выкладчыкаў.

6. Пленум ЦК адзначыў, што адпаведныя наркоматы (НКА, НКЛП, НКЦП, НКЗ) правялі зусім нездавальняючую работу ў напрамку практычнага выкананьня апошніх пастаноў партыі і ўраду, а таксама праявілі «зусім невыстарчальную ўвагу з боку значнай колькасьці гарадзкіх і раённых партыйных, комсамольскіх арганізацый да задач перабудовы вышэйшай школы і тэхнікумаў».

А таму пленум ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове лічыць неабходным:

1. Партыйным і комсамольскім арганізацыям, а таксама адпаведным наркоматам разгарнуць работу па перабудове работы ВНУ ў напрамку барацьбы за якасьць спэцыялістаў, якія падрыхтоўваюцца ліквідаваць такія недахопы, як паралелізм, дробную спэцыялізацыю, карлікавыя ВТНУ і т. д. У БССР за апошнія гады адкрылі шмат дробных ВНУ з ня менш дробнымі

спэцыяльнасьцямі, прычым у той-жа час гэтыя вучэбныя ўстановы ня былі забясьпечаны добраякасным складам навуковых работнікаў. Напрыклад, у інстытуце БРЖ (Горкі) на 16 катэдраў ёсьць 7 профэсароў, астатнімі кіруюць доцэнты і выкладчыкі.

Асаблівую ўвагу пленум ЦК зьвяртае на пытаньне ўпарадкаваньня праходжаньня студэнтамі вытворчай практыкі. У гэтай галіне да пастановы ЦВК было шмат «неразьбярыхі». Часта практыка ня была ўвязана з тэорыяй і таму не давала адпаведнай якасьці пры праходжаньні практыкі. Напрыклад, студэнты энэргетычнага інстытуту, якія не прайшлі курсу машын, ехалі на вытворчую практыку ў Сталінград і таму ім запрапанавалі там працаваць у якасьці чорнарабочых.

3. Забясьпечанасьць навуковых установаў добраякасным складам навуковых работнікаў і клопаты аб іх зьяўляюцца першачарговай задачай. Адначасова з работай па ўздыму іх палітычнай актыўнасьці, неабходна «забясьпечыць уважлівыя і беражлівыя адносіны да



ДЛЯ ЗАЎВАГ

навуковых работнікаў, якія прымаюць удзел у соцбудаўніцтве, поўнасьцю выконваючы ўказаньні т. Сталіна».

4. За апошнія гады назіраецца адставаньне ў галіне разгортваньня навукова - дасьледчай работы ў ВНУ. Пленум ЦК лічыць неабходным максымальнае разгортваньне гэтай работы, якая зьяўляецца неабходнай умовай уздыму тэарэтычнай якасьці выкладаньня і самых выкладчыкаў.

5. У пастанове ЦВК СССР ад 19 верасьня 1932 г. значная ўвага ўдзяляецца пытаньням дысцыпліны ў ВНУ і тэхнікумах. У ВНУ БССР таксама ёсьць шмат выпадкаў парушэньня дысцыпліны. У радзе ВНУ пытаньні дысцыпліны ня ўзьняты на адпаведную вышыню, вакол іх не мобілізуецца партыйна - грамадзкая думка. «Пленум ЦК прапануе ГК і РК КП(б)Б, парторганізацыям ВНУ і тэхнікумаў весьці рашучую барацьбу з фактамі парушэньня адзінаначальля, прыцягваючы вінаватых да суровай партыйнай адказнасьці, забясьпечыўшы поўнае выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб адзі-



ДЛЯ ЗАЎВАГ.

наначальлі і распарадку ў вышэйшай школе і тэхнікумах».

6. Зьвяртаючы ўвагу на пытаньне аб партыйна - масавай рабоце, пленум ЦК падкрэсьлівае, што «асноўным зьместам партыйна - масавай работы павінна зьявіцца: мобілізацыя студэнцтва і навуковых сіл на поўнае ажыцьцяўленьне рашэньняў партыі і ўраду аб вышэйшай школе і тэхнікумах; барацьба за павышэньне якасьці вучобы і авангарднай ролі ў гэтым комуністаў і комсамольцаў; усямернае ўмацаваньне адзінаначальля; узьняцьце ролі і значэньня профэсарска - выкладчыцкага пэрсоналу». Адсюль парторганізацыі ВНУ павінны ў сваёй рабоце весьці барацьбу з расхлябанасьцю, за высокую працоўную дысцыпліну, разгарнуўшы рашучую барацьбу супроць вылазак клясава - варожых элемэнтаў і іх агентуры, супроць правых і «левых» опортуністаў.

7. Сакавіцкі пленум ЦК (1932 г.) завастрыў увагу ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый па задачах культбудаўніцтва і асабліва на пытаньнях правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі ў

ДЛЯ ЗАЎВАГ

барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам як галоўнай небясьпекай на даным этапе, беларускім шовінізмам і контррэволюцыйным нацдэмократызмам. Аднак пленум констатаваў і такое недапушчальнае зьявішча, як аслабленьне ўвагі да справы беларусізацыі з боку савецкіх, гаспадарчых органаў, а таксама ВТНУ і ВНУ. Неабходнасьць узмацненьня барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам, узмацненьне барацьбы за беларусізацыю школы, савецкага апарату і т. д. пакрэсьліў у сваім выступленьні т. Гікала.

«Пленум ЦК падкрэсьлівае, што справа беларусізацыі зьяўляецца аднэй з важнейшых пазачарговых задач парторганізацыі і што ўсякая недаацэнка гэтай задачы будзе сустракаць з боку партыі самы рашучы адпор».

Дасягненьне посьпехаў у выкананьні дырэктыў пленуму ЦК зьяўляецца магчымым ва ўмовах неаслабнай і бязьлітаснай барацьбы з рэакцыйнымі, праваопортуністычнымі элемэнтамі, якія ёсьць у школе, з «лявацкімі» опортуністычнымі перагібамі, з дробнабур-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

жуазнай разбэшчанасьцю і халатнасьцю, пры ўмове павышэньня клясавай пільнасьці, памятаючы, што «новыя посьпехі соцыялізму рабочай клясе забясьпечыць толькі барацьба з рэшткамі капіталізму, толькі бязьлітасны адпор супраціўленьню гінучых капіталістычных элемэнтаў, падоленьне буржуазных і дробнабуржуазных прадрассудкаў сярод працоўных і правядзеньне настойлівай работы па соцыялістычным іх перавыхаваньні» (з рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі).

## 5. АБ ПАРТМАСАВАЙ РАБОЦЕ Ў ВЁСЦЫ

Задачы далейшай соцыялістычнай перабудовы такія грандыёзныя, што выканаць іх можна толькі пры наяўнасьці моцнай, бальшавіцкі баяздольнай організацыі ў вёсцы, пры штодзенным сыстэматычным выхаваньні новых партыйных кадраў, пры разгорнутай партмасавай рабоце, якая забясьпечвае штодзенныя цесныя сувязі парторганізацыі з шырокім колгасным актывам, з бядняцка-серадняцкім

актывам, у прыватнасьці з працоўнай жанчынай вёскі.

Уся сума пытаньняў партмасавай работы была пастаўлена на пленуме па дакладах трох райкомаў партыі — Лёзьненскім, Слуцкім і Мазырскім.

Абмеркаваньне гэтага пытаньня на прыкладзе трох пэўных раёнаў дало магчымасьць больш конкрэтна і разгорнута намеціць чарговыя задачы партмасавай работы.

Указаныя раёны—асабліва Лёзьненскі і Слуцкі—ідуць у ліку перадавых раёнаў.

Рост тэхнічных культур, параўнальна нядрэнныя тэмпы выкананьня загатовак, рост колектывізацыі, значнае павялічэньне парторганізацыі (асабліва па Слуцкім раёне),— усё гэта гаворыць пра посьпех соцыялістычнага будаўніцтва ў гэтых раёнах. Але характэрная, агульная асаблівасьць гэтых і ўсіх іншых раёнаў, што гэты рост адбываецца галоўным чынам **ушыркі**. Растуць плошчы засеваў, але надзвычайна марудна расьце ўраджайнасьць палёў. Расьце лік колгасаў, але надзвычайна нездавальняючае яшчэ іх організацыйна-гас-

падарчае ўмацаваньне. Расьце парторганізацыя, але яшчэ надзвычайна слабае яе ленінскае загартаваньне. Расьце лік ячэек, але яшчэ нездавальняюча кіраўніцтва імі з боку райкому.

**Абсолютна недастатковая конкрэтнасьць** у кіраўніцтве і надзвычайна нездавальняючая пастаноўка ўнутрыпартыйнага жыцьця — гэта тое асноўнае, што тармозіць хуткае разгортваньне партыйна - масавай работы, бальшавіцкай баяздольнасьці парторганізацый.

Хіба пры конкрэтным падыходзе да ячэек магчымы былі-б такія выпадкі, каб сакратаром ячэйкі калгасу «Чырвоная Ніва», Бабруйскага раёну, быў чалавек, які быў выключан у 1929 г. з партыі, у 1931 г. прыняты ў партыю і ўсьлед за гэтым быў арыштаван ДПУ за ўдзел у распадзе колгасу і сядзеў тры месяцы ў турме.

Райкомы партыі ўсё яшчэ падыходзяць да ячэйкі з загатоўчым «аршынам» — цікавяцца процантам выкананьня даным сельсаветам, колгасам, якім кіруе ячэйка, тых ці іншых загатовак. Унутраным-жа жыцьцём ячэйкі, яе паасобнымі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

членамі, выхаваньнем ячэйкі, яе кіруючага ядра — райкомы да гэтага часу цікавіліся надзвычайна мала.

Неконкрэтнасьць кіраўніцтва асабліва праяўляецца ў адносінах сакратароў ячэек. Важнейшым зьвяном партработы зьяўляецца **сакратар ячэйкі.** Партыйная вытрыманасьць сакратара ячэйкі, яго ўменьне штодзенна кіраваць і выхоўваць членаў партыі, — адным словам, уся работа сакратара ячэйкі ў рашаючай ступені вызначае пасьпяховасьць работы ячэйкі, яе бальшавіцкую баяздольнасьць, яе ўменьне весьці за сабой шырокія масы колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў.

Між тым аналіз складу сакратароў вясковых ячэек кажа пра тое, што асноўная маса іх зьяўляецца членамі партыі з 1—2—3-гадовым стажам. Як кур'ёз можна адзначыць наступны факт: у аднэй ячэйцы сакратаром быў таварыш са стажам з 1932 г., а кандыдатам у гэтай ячэйцы лічыўся адзін таварыш ужо... 5 гадоў, з 1927 г.

У сваім выступленьні т. Гікала завастрыў увагу райкомаў на не-

абходнасьць штодзеннай дапамогі і кіраўніцтва сакратарамі ячэек. Ня прыніжаючы значэньня рознага роду курсаў для сакратароў ячэек, задачу бальшавіцкага выхаваньня сакратароў ячэек трэба перш за ўсё вырашаць шляхам штодзеннага, уважлівага таварыскага кіраўніцтва сакратарамі ячэек з боку райкомаў партыі. У гэтай справе рашаючую ролю павінны адыграць **оргаддзелы райкомаў.** Пераключыць сваю галоўную ўвагу на ўнутрыпартыйнае жыцьцё, на штодзеннае кіраўніцтва сакратарамі ячэек — такая задача оргаддзелаў райкомаў.

Наколькі нядбайна адносяцца ў раёнах да сакратароў ячэек, паказвае наступны факт: у Клімавічах 42 сакратары ячэек за 1932 г. пераменіліся 60 разоў. У аднэй апорнай ячэйцы за год зьмянілася 4 сакратары. Гэта адбываецца ў значнай меры таму, што райком глядзіць на сакратара як на адміністратара, не аддае ўвагі справе яго ідэёва-палітычнага выхаваньня.

Конкрэтна кіраваць ячэйкамі — гэта значыць кіраваць правільнай расстаноўкай сіл комуністаў, пра-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вільным разьмеркаваньнем абавязкаў паміж імі. У наяўнасьці між тым такія факты, што ў перадавым Лёзьненскім раёне няма нават апорных ячэек, няма партгруп.

Ва ўсіх абсьледваных раёнах пераважаючая частка комуністаў **па-за** колгаснай вытворчасьцю. У Жысьценскай ячэйцы, Слуцкага раёну, з 14 комуністаў толькі адзін на вытворчасьці. У 12 ячэйках Клімавіцкага раёну толькі 18 комуністаў знаходзяцца на вытворчасьці. Ці дзіўна пасьля гэтага, што шмат якія колгасныя ячэйкі фактычна ня кіруюць колгаснай вытворчасьцю, не выступаюць авангардам, кіраўніком мас на рашаючым фронце колгаснага будаўніцтва — **вытворчым.**

Таму пленум ЦК рэзка паставіў пытаньне аб перакіданьні да 1 студзеня большасьці комуністаў з усякіх адміністрацыйных пасад у колгасныя і саўгасныя брыгады на вытворчасьці, прапанаваў пашырыць сетку партыйных ячэек, ствараць іх на аснове вытворчага прынцыпу, дабіцца выдзяленьня

максымальнай колькасьці парт-груп.

Без правядзеньня гэтых мерапрыемстваў нельга дабіцца тэй перабудовы партработы, якую намеціў ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б.

Другой важнейшай задачай зьяўляецца марксысцка - ленінскае выхаваньне членаў і кандыдатаў партыі.

Ва ўмовах вёскі важнейшым сродкам гэтага павінен быць перш за ўсё партдзень. У рэзолюцыі пленуму выразна ўказана, што партдзень зьяўляецца «аднэй з асноўных форм бальшавіцкага выхаваньня комуністаў, разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай дэмократыі.

Асноўным зьместам партдня павінны стаць пытаньні ўнутрыпартыйнага жыцьця, міжнароднай і нацыянальнай політыкі і апошнія гістарычныя пастановы ЦК УсеКП(б) па організацына - гаспадарчым умацаваньні колгасаў, соцыялістычным перавыхаваньні колгасьнікаў на бальшавіцкіх прынцыпах працы і разьмеркаваньня, на ўзмацненьні стымулаў матэрыяльнай зацікаўленасьці ў якасьці работы,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

павышэньні ўраджайнасьці і таварнасьці сельскай гаспадаркі.

У выніку правядзеньня партдня неабходна ўзьняць **клясавую пільнасьць** і здольнасьць кожнага камуніста і комсамольца выкрываць конкрэтныя формы кулацкага супраціўленьня і праяў опортунізму, даваць простыя і вычарпальныя адказы на самыя вострыя, хвалюючыя масы пытаньні».

Далей пленум указаў, што неабходна так організаваць разьмеркаваньне партнагрузак, каб кожны член партыі мог быць ахоплен партвучобай. Кандыдацкія гурткі, завочная адукацыя, слуханьне радыёлекцый, — неабходна строга ўлічваць мэтазгоднасьць кожнага мэтоду партвучобы. Вопыт перадавых ячэек і іх сакратароў па СССР паказвае, што самы перагружаны сакратар ячэйкі можа штодзенна працаваць над кнігай Леніна і Сталіна, калі дакладна разьмяркуе сваею работу і створыць дысцыпліну ў сваёй рабоце перш за ўсё.

Аднэй з рашаючых задач партыйна - масавай работы пленум паставіў барацьбу за аўладаньне

агро-і зоотэхнікай як з боку камуністаў, так і з боку працоўных вёскі.

Дыфэрэнцыюючы задачы па паасобных раёнах, пленум для Лёзны асноўнай паставіў задачу аўладаньня агротэхнікай па **ільну** з мэтай дабіцца рашучага павышэньня ўраджайнасьці. Для Мазыра і Слуцку ён падкрэсьліў задачу барацьбы за аўладаньне зоотэхнікай, за павышэньне таварнасьці жывёлагадоўлі. Гэта было тым больш неабходна падкрэсьліць, што з боку Мазырскага райкому была праяўлена яўная недаацэнка жывёлагадоўчага напрамку ў гаспадарчым разьвіцьці раёну.

Прыкладам недаацэнкі ўсёй складанасьці задач соцыялістычнай пераробкі вёскі, імкненьня пераскочыць цераз складанасьць гэтых задач зьяўляецца падвергнутае пленумам крытыцы рашэньне Мазырскага райкому аб перайменаваньні раённай газэты «Колгасьнік Мазыршчыны» ў «Бальшавік». Матывуючы будучай індустрыялізацыяй раёну, мазырскія таварышы ў сваім рашэньні ўсталі на шлях адцягваньня ўвагі парторганіза-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цыі ад конкрэтных, гіганцкай важнасьці задач социялістычнай перабкі вёскі (у прыватнасьці барацьбы за пашырэньне жывёлагадоўлі і павышэньне яе таварнасьці), якая адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы.

Калі ўказаньне т. Гікала, у яго прамове на пленуме, аб неабходнасьці **організаваць** партмасавую работу надзвычайна **важна** для ўсіх галін партмасавай работы, дык асабліва выключнае **значэньне** яно мае для масавай работы ў дакладным сэнсе гэтага слова, для работы **сярод шырокіх беспартыйных мас.**

Важнейшым зьвяном масавай работы зьяўляецца **адбор і стварэньне колгаснага актыву.** Гэта адна з рашаючых задач організацыйнагаспадарчага ўмацаваньня колгасаў недапушчальна недаацэньвалася ў большасьці раёнаў. У шмат якіх колгасах наогул няма **організаванага колгаснага актыву,** а там, дзе ён створаны, падбор, зроблены часта паводле формальнай адзнакі, з актывам работы не вядзецца.

Колгасны актыў, г. зн. організаваная перадавая частка колгасьні-

каў, якія адданы савецкай уладзе, хварэюць за колгасную справу, паўдарнаму ўдзельнічаюць у колгаснай вытворчасьці, актыўна ўдзельнічаюць у выкананьні колгасам яго абавязацельстваў перад дзяржавай, павінен перш за ўсё **адбірацца і падбірацца.** Справа, значыць, ня ў тым, якую пасаду ў колгасе займае Іваноў і Пятроў, а наколькі **на справе** сваёй работай — як палявод, брыгадзір, конюх і т. д. — ён мацуе колгас, яго гаспадарку. Таму трэба парваць з такой практыкай, калі колгасны актыў падбіраюць толькі з пункту гледжаньня займаемай пасады — раз ты такі і такі загадчык, значыць ты актывіст. У колгасны актыў трэба **адабраць адданых, стойкіх колгасьнікаў, незалежна ад займаемай пасады.** Тым самым трэба з яго адсеяць ілжэактывістаў, усё-роўна — ці сядзіць ён у праўленьні ці зьяўляецца такім і такім загадчыкам. Але мала адабраць колгасны актыў. Трэба штодзенна з ім працаваць. Трэба разам з імі абмяркоўваць і праводзіць загатоўкі, пытаньні разьмеркаваньня даходаў, пытаньні наступнага севазвароту

ДЛЯ ЗАЎВАГ

і т. д. Стрыжнем работы колгаснага актыву павінна быць, з аднаго боку, **барацьба за дакладнае і поўнае выкананьне колгасам яго абавязацельстваў перад Краінай саветаў, з другога — барацьба за павышэньне ўраджайнасьці, за павышэньне колгасных даходаў, перш за ўсё шляхам аўладаньня агро-і зоотэхнікай.**

Калі пастаноўка масавай работы ў колгасе нас задаволіць ня можа, дык асабліва нездавальняюча пастаўлена работа з **аднаасобнікам.** Масавая работа сярод беднякоў і серадзякоў-аднаасобнікаў у шмат якіх раёнах пастаўлена горш, чым у папярэднія гады. Сходы аднаасобнікаў часта склікаюцца толькі для пастаноўкі загатоўчых пытаньняў.

Аслабленьне масавай работы сярод аднаасобнікаў дзе-ні-дзе скарысталі кулацкія элемэнты для сваёй контррэволюцыйнай работы. Пленум ЦК ва ўсіх сваіх рашэньнях — і па загатоўках, і па пытаньні аб узьняцьці ўраджайнасьці, і дакладах трох райкомаў — вельмі рэзка паставіў пытаньне аб неабходнасьці ўзмацненьня маса-

вай работы сярод працоўных аднаасобнікаў. Неабходна перш за ўсё згуртаваць навакол сельсаветаў, комісій садзейнасьці тых аднаасобнікаў, якія акуратна і ў тэрмін выконваюць свае абавязкі перад дзяржавай. Неабходна скарыстаць кампанію па разьмеркаваньні даходаў у колгасах, якая пачалася, для папулярызацыі колгасных дасягненьняў сярод аднаасобнікаў, запрашаючы іх на справаздачныя колгасныя сходы.

Неабходна ўвесьці ў практыку скліканьне сельскіх сходаў з дакладамі членаў РВК аб важнейшых дэкрэтах партыі і ўраду. Было-б няправільна думаць, што ва ўмовах БССР групы беднаты зжылі сябе як мэтод згуртаваньня працоўных аднаасобніакў навакол партыі і савецкай улады, як мэтод іх мобілізацыі супроць рэштак кулацтва.

Спробным каменем масавай работы сярод аднаасобнікаў павінна зрабіцца кампаніяй па зьбіраньні адзіначасовага падатку з аднаасобнікаў. Вядучы яе з дапамогаю колгаснага актыву, праводзячы мяжу паміж аднаасобні-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

камі, якія акуратна выконваюць свае абавязкі перад дзяржавай, і тымі, хто іх саботуе, мы можам і павінны яе выкарыстаць для ўмацаваньня і пашырэньня бядняцка-серадняцкага актыву, для росту колектывізацыі.

У радзе сваіх рашэньняў пленум падкрэсьліў неабходнасьць узмацненьня работы сярод **жанчын**, патрабуючы перш за ўсё рашучага пераломy ў рабоце сярод працоўных **аднаасобніц**. Ажыўленьне работы дэлегацкіх сходаў, уцягненьне жанчын у комісіі садзейнасьці, колгасны актыў, больш сьмелае вылучэньне жанчын як кіраўнікоў колгасных фэрм, брыгадзіраў, і т. д.,—усе вагары павінны быць націснуты для таго, каб уцягнуць новыя дзесяткі і сотні тысяч працоўных жанчын у справу соцыялістычнай перабудовы вёскі.

* * *

Партыйна-масавая работа, як правільна падкрэсьлівалася на пленуме, ня можа быць адарвана ад гаспадарча-палітычных кампаній. Партыйна-масавая работа па-за загатоўкай, па-за сяўбой, па-за ўбор-

кай—гэта выхалашчаная масавая работа. Але і наадварот—загатоўкі, якія, скажам, праводзіліся бяз масавай работы, гэта сума чыста адміністрацыйных мер, а ня сродак організацыйна - гаспадарчага ўмацаваньня, далейшага згуртаваньня працоўных вёскі навакол савецкай улады. Вось чаму трэба пакончыць з тэорыямі (і практыкай) наконт таго, што масавую работу трэба адкласьці да... сканчэньня загатовак. Толькі ў бальшавіцкім адзінстве масавай работы і гаспадарча-вытворчай, загатоўчай работы закладзены посьпехі пераможанага соцыялістычнага будаўніцтва.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

